© PDF: Kamunikat.org 2024
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

Вестка, БССР

# НАША ДРУЖБА

Віцебскі каўровы камбінат першы ў Беларусі заваяваў званне прадпрыемства камуністычнай працы. У 1960 годзе тут было створана аддзяленне Таварыства савецка-польскай дружбы. З першых жа крокаў сваёй дзейнасці праўленне аддзялення наладзіла сяброўскія кантакты з калектывам каўрова - плюшавай фабрыкі імя Тадка Айзена ў Лодзі. З кожным годам гэтыя сувязі ўсё больш развіваюцца і ўмацоўваюцца.

У сваёй перапісцы з сябрамі з Лодзі, мы імкнемся расказаць ім аб тым, што нараджаецца ў цэхах і аддзелах камбіната. Наша аддзяленне стараецца як найпаўней пазнаёміць польскіх сяброў са справамі і жыццём свайго калектыву. З гэтай мэтай, разам з падшыўкай нашай шматтыражнай газеты, мы адправілі лодзінскім сябрам брашуру аб нашым камбінаце, фатаграфіі перадавікоў вытворчасці, фільм-нарыс аб людзях свайго прадпрыемства. Апрача гэтага, мы паслалі ім сцягі, партрэты дзеячоў навукі і культуры, розную літаратуру, а таксама невялікія сувеніры.

Неўзабаве ў новым адміністрацыйным корпусе мы абсталюем пакой савецка - польскай дружбы. Думаем, што ў афармленні яго нам памогуць сябры з Лодзі.

У сувязі з 20-годдзем народнай Польшчы праца аддзялення на камбінаце прыкметна ажывілася. Пачалі мы гэту падрыхтоўку яшчэ ў мінулым годзе. Мастакамі і рабочымі быў створаны кавёр-партрэт Адама Міцкевіча. У канцы мінулага года вялікая група нашых рабочых, памочнікаў майстраў, майстраў і служачых пабывала ў Польшчы. Вярнуўшыся дамоў, яны выступілі ў шматтыражнай газеце і па радыё камбіната з расказамі аб сваіх сустрэчах на польскай зямлі.

На нашым камбінаце цяпер працуюць дзесяткі ветэранаў Айчыннай вайны, якія прымалі непасрэдны ўдзел у вызваленні Польшчы. Напярэдадні 20-годдзя ПНР, яны выступілі перад калектывам з успамінамі, расказалі сваім таварышам па працы аб сустрэчах з польскім народам.

У працы па ўмацаванню дружбы мы не абмяжоўваемся толькі правядзеннем гутарак ці лекцый аб дасягненнях брацкага польскага народу. У нас стала ўжо традыцыяй, раз у месяц, а часам і больш, шматтыражная газета і радыё выступаюць з матэрыяламі аб Польшчы. Апрача гэтага, у клубе камбіната і ў фае аднаго з вытворчых корпусаў абсталяваны куткі дружбы, дзе людзі заўсёды маюць магчымасць пазнаёміцца з навінкамі польскай літаратуры і фотаматэрыяламі з Польшчы. Шматлікія нашы рабочыя і служачыя з'яўляюцца пастаяннымі чытачамі польскіх газет, журналаў і іншых выданняў, якія свабодна можна купіць у кіёсках «Саюздруку». Добрай традыцыяй стала таксама правядзенне літаратурных вечараў, фотавыставак і выставак твораў польскіх аўтараў. У падрыхтоўцы літаратурных вечараў удзельнічае вялікая колькасць рабочых і служачых.

**ГЕОРГІ РАБУШАЎ**
нам. старшыні праўлення АСПД на Віцебскім каўровым камбінаце.



**У кутку савецка-польскай дружбы камбіната заўсёды ажыўлена.**
**Фота Д. Прэса**

# СВЕДКІ НАШАЙ ГІСТОРЫІ



16 ліпеня Галоўнае Праўленне БГКТ наведалі госці **Ружа Каган і Сымон Шварц.** Абое яны — заслужаныя дзеячы рэвалюцыйнага руху на Беласточчыне, абое з'яўляліся найперш членамі Камуністычнай Партыі Польшчы, а пасля ўтварэння ў 1923 годзе філіялу КПП — Камуністычнай Партыі Заходняй Беларусі сталі яе выдатнымі дзеячамі.

Таварыш Ружа Каган пастаянна пражывае ў Омску. Да нас у Польшчу прыбыла па запрашэнню Інстытута гісторыі партыі пры ЦК ПАРП, працаўніком якога з'яўляецца менавіта таварыш Сымон Шварц. Кіруе ён у гэтым інстытуце групай, якая займаецца гісторыяй КПЗБ.

Таварыш Ружа Каган сваю рэвалюцыйную дзейнасць асабліва актыўна разгарнула сярод жанчын, якія працавалі ў тэкстыльнай прамысловасці горада Беластока і яго наваколля. Амаль на кожнай фабрыцы дзейнічалі жаночыя гурткі, якія яна арганізавала.

Гаворачы пра тыя гады, Ружа Каган прыпамінае шматлюдныя дэманстрацыі, арганізаваныя камуністамі ў 1922, 1923 і 1924 гадах. Асабліва масава праходзіла жаночая дэманстрацыя ў Беластоку ў 1924 годзе, прысвечаная адзначэнню міжнароднага дня жанчын — 8 сакавіка.

Муж Ружы Каган, таварыш Мілер, быў адным з заснавальнікаў КПЗБ і членам яе Цэнтральнага Камітэта.

Таварышы Каган і Шварц утрымоўвалі кантакты з беларускімі пасламі Тарашкевічам, Рак-Міхайлоўскім, Мятлой і Валошыным.

Удзельнікі сустрэчы — працаўнікі Галоўнага Праўлення БГКТ, члены калектыва нашай рэдакцыі і былыя члены КПЗБ — з вялікай увагай слухалі успамінаў Ружы Каган і Сымона Шварца. Потым пасыпаліся пытанні. Абое яны гаварылі аб сваёй падпольнай працы, успаміналі таварышоў, якіх ужо няма сярод жывых, з пылу гісторыі раскрывалі вобраз тых дзён.

Таварышы Каган і Шварц з'яўляюцца ўжо пенсіянерамі. Не перастаюць аднак працаваць. Працу, адказную працу партыйных дзеячоў высокага рангу яны выконваюць па старой прывычцы, як мы б сёння сказалі, грамадскім чынам, хаця з увагі на гады, здароўе і заслугі патрэбны ім спакойны адпачынак. Неспакойнае сэрца сапраўдных камуністаў не дазваляе бяздзейнічаць пакуль хоць крыху ёсць сіл у руках.

**В. Рудчык**
Фота аўтара

**На здымку: Ружа Каган у сядзібе Галоўнага Праўлення БГКТ дзеліцца сваімі ўспамінамі.**

**ПАНЦЕЛЯЙМОН ЮР'ЕЎ**

# Яшчэ да пытання беларускай мовы на польскіх землях

У адным з папярэдніх нумараў «Нівы» была змешчана даволі шырокая гістарычная даведка аб беларускай мове і адносінах да яе польскіх вучоных і даследчыкаў. Гэтую даведку я хацеў бы папоўніць некаторымі менш вядомымі фактамі, якія хоць і з'яўляюцца мінулым, але, як мне здаецца, павінны зацікавіць не толькі навуковых супрацоўнікаў, а і шырокія колы чытачоў.

Як вядома, беларуская мова была афіцыйнай дзяржаўнай мовай Літвы: адпаведны артыкул «Літоўскага статута» (1588) даслоўна гаворыць: «— а пісар земскій мает по руску літерамі і словы рускімі всо лісты, выпісы і позвы пісаті, а не іншім языком і словы». Хоць, у асноўным, беларуская мова ўжывалася перш за ўсё на землях Белай Русі, на абшары паміж Заходнім Бугам, Бобром, Заходняй Дзвіной, Сожам і Прыпяццю, з ёю даводзілася сустракацца нават і на польскіх землях, распаложаных даволі далёка ад беларускіх абласцей і, здавалася б, не маючых з беларускай мовай ніякіх кантактаў.

У гэтым сэнсе значную цікавасць прадстаўляюць матэрыялы, апублікаваныя ў III томе «Літоўскага навуковага агляду», выданага яшчэ ў 1889 годзе. Народны настаўнік Аляксандр Канаплёў у сваёй заметцы «Аб рускіх гаворках на землях былога княства Літоўскага» ўказвае, што ў аколіцах Коўна ў простую гаворку пражываючых там палякаў уваходзіць значная колькасць слоў беларускага дыялекту, і што многія з гэтых слоў, некалі ўжываныя сярод беларусаў, захаваліся цяпер толькі ў польскай народнай «гвары» некаторых сялян - палякаў, пражываючых у ковенскай губерні».

Францішак Сарачынскі ў 1905 годзе звярнуў увагу на вельмі цікавы момант з гісторыі беларуска-польскіх культурных узаемаадносін: гэта справа старая і датычыць пачатку XIX стагоддзя. У дзённіку аднаго з арыштаваных па справе паўстання дзекабрыстаў, затрыманага на так званым «прускім кардоне» (Сарачынскі не падае яго прозвішча), былі знойдзены запіскі аб некаторых супольных элементах кашубскага дыялекту польскай мовы з «беларускім дыялектам мовы расійскай». Справа ў гэтым выпадку, здаецца, датычыць таго, што лектар польскай мовы ў Гданьскай акадэміі, адзін з найбольш выдатных прапаведнікаў свайго часу, знаўца рускай літаратуры Крыштафор Міянговіус, аўтар «Нямецка - польскага слоўніка», выказаў думку, што кашубскі дыялект польскай мовы якому ва ўмовах германізацыі польскіх плямён пагражала гібель, нагадвае ў некаторым сэнсе мову жыхароў Белай Русі; падобны ў даным выпадку і спосаб ставіць націск, пабудова сказаў і нават падабенства кораняў некаторых слоў. Міянговіус, з думкай захаваць кашубскі дыялект, прапанаваў скласці слоўнік кашубскай гаворкі, запісваючы старыя словы і выразы. «Кашубская мова з мовай польскай падобны, а з іншымі славянскімі мовамі і дыялектам рускім дружны». Рускія вучоныя зацікавіліся словамі Міянговіуса. Яго думка, што дыялект кашубаў па сваёй будове нагадвае мову сялян Белай Русі, зацікавіла, у прыватнасці, Румянцава. Дзякуючы яму былі праведзены лінгвістычныя даследванні, у якіх, па просьбе Румянцава, прымалі ўдзел і сам Міянговіус, і яго вучань — малады вучоны, мовазнаўца Прэйс.

Пошукі і даследванні паказалі, што кашубская мова не падобна да рускіх дыялектаў, хоць у ёй ёсць падобныя словы да беларускіх, але і такіх слоў знойдзена мала. Слоўны ж фонд і ўся структура мовы паказвае, што кашубская гаворка бясспрэчна з'яўляецца дыялектам польскай мовы.

Цікава адзначыць, што Францішак Сарачынскі апавядаючы аб зацікаўленні, праяўленым рускім вучонымі, успамінае ў іх ліку прозвішча маладога вучонага з Магілёва Уладзіміра Горніча, гаворачы што ён вядомы як збіральнік народнага беларускага фальклору. Аб значэнні беларускай мовы на польска - літоўскім паграніччы сведчыць «вірш» Яна - Казіміра Пашкевіча напісаны на пачатку семнаццатага стагоддзя па-беларуску.

Польска квітнее лацінаю
Літва квітнее русчызнаю
Без той у Польсцэ не
прабудзеш
Без сей у Літве блазнам
будзеш.

Ян Кордась, вядомы даследчык польскага фальклору на Мазурах, піша, што «ў мазурскіх раёнах можна сустрэць сляды старабеларускай мовы». Аўтар бачыць у гэтым польска - літоўскія кантакты таго ча-

**(Працяг на стар. 5)**

муністычныя арганізацыі моладзі аб'ядналіся ў студзені 1924 года ў Камуністычны Саюз моладзі Заходняй Беларусі (КСМЗБ). Будучы складовай часткай камсамола Польшчы, ён аб'ядноўваў у сваіх шарэгах перадавую рабоча - сялянскую моладзь усіх нацыянальнасцей Заходняй Беларусі і ў канцы 20-х гадоў налічваў каля 3 тысяч членаў і быў верным памочнікам КПЗБ ва ўсёй яе рэвалюцыйнай дзейнасці. ЦК КСМЗБ выдаваў нелегальную газету «Малады Камуніст». Сярод кіруючага актыву камсамола Заходняй Беларусі былі такія цудоўныя важакі рэвалюцыйнай моладзі, як В. З. Харужая, Н. Н. Дворнікаў (С. Тамашэвіч), С. О. Прыцыцкі, М. Д. Словік, М. С. Майскі, Н. П. Маслоўскі, А. І. Федасюк, В. Будкевіч (Б. Лукашэвіч), Ф. Шчапоўскі (А. Маркоўскі), Д. Шлейфман, С. Г. Анісаў, А. Я. Міхалоўскі і іншыя. У дзейнасці камсамола Заходняй Беларусі актыўны ўдзел прыймаў А. Завадскі, як прадстаўнік камсамола Польшчы.

КПЗБ цесна супрацоўнічала з КПЗУ па ўсіх важнейшых пытаннях рэвалюцыйнага руху. На Палессі, Валыні абедзве партыі супольна арганізавалі забастоўкі, дэманстрацыі і іншыя рэвалюцыйныя выступленні працоўных.

На працягу ўсёй сваёй дзейнасці КПЗБ карысталася вялікай падтрымкай і дапамогай брацкай Камуністычнай партыі (бальшавікоў) Беларусі і ўсёй ВКП(б). ЦК КП(б)Б і ЦК КПЗБ падтрымлівалі паміж сабою брацкія адносіны, абменьваліся прывітаннямі і дэлегацыямі на з'ездах і канферэнцыях Партыйны і савецкі друк і грамадскія арганізацыі БССР заўсёды жыва адгукваліся на выпадкі, якія адбываліся ў Заходняй Беларусі, асабліва на забастоўкі і дэманстрацыі, судовыя палітычныя працэсы і галадоўкі палітычных вязняў у турмах фашысцкай Польшчы, пратэставалі супраць праследвання рэвалюцыянераў.

Кампартыя Заходняй Беларусі настойліва авалодвала бальшавізмам, яго арганізацыйнымі і ідэалагічнымі прынцыпамі, ленінскай стратэгіяй і тактыкай. На гераічных прыкладах гісторыі ВКП(б) яна вучылася майстэрству кіравання рэвалюцыйнай барацьбой працоўных.

У сваёй дзейнасці КПЗБ даводзілася пераадольваць велізарныя цяжкасці. Працуючы ва ўмовах капіталістычнага ладу, фашысцкай дыктатуры і акупацыйнага рэжыму, КПЗБ, як і ўся КПП, знаходзілася на нелегальным становішчы. Супраць яе выступалі не толькі рэакцыйныя буржуазныя партыі, беларускія буржуазныя нацыяналісты, але і правыя кіраўнікі рэфармісцкіх партый ППС, Бунда, Стронніцтва Людовага (Сялянская партыя), якія імкнуліся аслабіць рэвалюцыйную барацьбу працоўных за звяржэнне буржуазна-памешчыцкага ладу.

КПЗБ падвяргалася праследванням паліцыі і дэфензівы (контрразведкі). Турмы, дзе мучыліся тысячы членаў КПЗБ і КСМЗБ, жорсткі турэмны рэжым, канцэнтрацыйны лагер, створаны пілсудчыкамі ў Картуз-Бярозе, недалёка ад Брэста, здзекі і катаванні, масавыя працэсы (як працэсы 94 і 56 у Вільні, 133 і 35 — у Беластоку, 75 — у Гродна) і надзвычайныя суды (як суд у Кобрыне над рэвалюцыйнымі сялянамі на чале з Р. Каплан) і суровыя прыгаворы аж да пакарання смерцю — усё гэта былі сродкі барацьбы з камуністамі. Побач з тэрорам паліцыя прымяняла супраць кампартыі такі гнусны метад, як правакацыя. КПЗБ заўсёды вяла бязлітасную барацьбу з метадамі правакацыі і тэрору. Ні суровыя прыгаворы, ні катаванні, ні правакацыі не змаглі зламаць волю камуністаў да барацьбы за вызваленне працоўных ад іга капіталізму.



© PDF: Kamunikat.org 2024
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

